

Н. Ф. ГІКАЛО.



Н. М. ГАЛАДЗЕД.

# БССР ОРДЭНАНОСНАЯ

Рабочыя і калгаснікі БССР, пад кіраўніцтвам партыі, дабіліся за апошнія гады велізарных поспехаў у прамысловасці і сельскай гаспадарцы. Совецкая Беларусь стала адной з перадавых рэспублік вялікага Совецкага Саюза.

За гэтыя выдатныя поспехі Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюза ССР узнагародзіў Совецкую Беларусь ордэнам Леніна. Таксама ўзнагароджаны ордэнам Леніна і слаўныя кіраўнікі Совецкай Беларусі — першы сакратар ЦК КП(б)Б т. **Нікалай Фёдаравіч Гікало** і старшыня Соўнаркома т. **Нікалай Мацвеевіч Галадзед.**

Ордэн Леніна—самая высокая і самая пачэсная ўзнагарода. З вялікай радасцю сустрэла наша рэспубліка гэтую ўзнагароду. Працоўныя Совецкай Беларусі і іх дзеці далі большэвіцкае абяцанне саюзнаму ураду, партыі і любімаму правадыру—вялікаму **Сталіну** апраўдаць гэтую высокую і пачэсную ўзнагароду — яшчэ лепш працаваць, лепш вучыцца і змагацца за новае жыццё.

# Хлопцы Вынаходцы

Верш *АНДРЭЯ АЛЕКСАНДРОВІЧА*
Малюнкі *А. ВОЛКАВА*



Два браты — Ігнат і Ціхан,
Каб цікава дзень пражыць,
Згаварыліся паціху
Нешта нейкае зрабіць.

І адразу, ўзяўшы клетку,
Пару слоікаў, тапор —
Разам, скрыта, неўзаметку
Хлопцы выбеглі на двор.

Як прышла дадому маці,
Дома хлопцаў не было.
Хто паможа адшукаць іх?
Гора матчына расло.

Дзе ні пойдзе — ўсё дарма:
Іх — няма, няма, няма.

Што за ліха?
Ўсё няўлад!
Дзе-ж ён, Ціхан?
Дзе-ж Ігнат?

Расказала маці Мотку.
Мотка доўга не чакаў, —
Каб сабраць дзяцей на сходку,
У трубу трубіць пачаў.

Прыляцелі, як на крыллях,
На сігнал з усіх канцоў,
А сабраўшыся, рашылі
Выйсці ў пошукі хлапцоў.

Хто куды, як следапыты,
Разышлася дзетвара.
Бегаў з імі Жук сярдзіты
Ад двара і да двара.

Скрозь хадзілі і — дарма:
Іх — няма, няма, няма.





Што за ліха?
Ўсё няўлад!
Дзе-ж ён, Ціхан?
Дзе-ж Ігнат?



Мотка стаў і разважае:
— Мо' яны пайшлі ў кіно?
Наглядае за трамваем,—
На трамваях не відно.



— Дзе-ж маглі яны падзецца?
Разам з хлопцамі цяпер
Едзе на матацыклетцы
Нават міліцыянер.

Баявыя самалёты
Над садамі загулі:
Два разведчыкі-пілоты
Смела ў пошукі плылі.

Скрозь кружылі і—дарма:
Іх—няма, няма, няма.
Што за ліха?
Ўсё няўлад!
Дзе-ж ён, Ціхан?
Дзе-ж Ігнат?



Не знайсці ніяк! Дасада!
Што прыдумаць? Што пачаць?
Зноў сышліся, зноў нарада:
Дзе шукаць і як шукаць?

— От загадка!—думаў Мотка.
— Пачакайце!—крыкнуў Ян,—
Мо' яны зрабілі лодку
І плывуць у акіян?

—Ну й прыдумаў! Хто дасць веры?—
Засмяяўся ўвесь атрад.
— Мо' плывуць у стратасферу,
Свой зрабіўшы стратастат?

Кіньце жарты, трэба-ж бегчы!
А куды? куды? куды?
Жук у сад пайшоў прылегчы,
Свежай выпіўшы вады.

Сад зялёны, кучаравы,
Колькі кветак і кустоў!
Колькі мушак і казявак,
І цікавых матылькоў!

Слівы, яблыкі, ігрушы,
Сад багаты, сад густы.
Жук, хвастом сваім кіўнуўшы,
Стаў разглядываць кусты.

Задрыжэў. Наставіў вуха.
Да кустоў падбег і стаў.
Углядаўся, слухаў, слухаў,
Потым дзецям знак падаў.

— Гаў-гаў-гаў—пачулі дзеці,
Да Жука падбеглі ў сад.
Жук падскокнуў,—ён падмеціў:
Тут і Ціхан, і Ігнат.

І раптоўна злосным гулам
Закрычала дзетвара:
— Вось знайшлі сабе прытулак,
Марш дамоў! Пара! Пара...

Цэлы дзень мы вас шукалі.
Гэткі быў перапалох!
Ціхан здзіўлен:—Мы-ж не зналі,—
Мы працуем тут удвох.

Мы збіралі зелянушкі,
Мушкі, сушкі і жучкі.
Ёсць і птушка-весялушка,
І крылушкі-матылькі.

— Мы,—пачаў далей Ігнацік,
Адступіўшы крышку ўбок,—
Мы рашылі ў нашай хаце
Свой зрабіць жывы куток.

Дзеці ўсё-ткі нападаюць:
— Вы-б сказалі, нельга так!
Потым гуртам разглядаюць
Мушку, сушку і чарвяк.

Шапаціць на дрэвах вецце.
Вее вецер. Сонца свеціць.
Стала ціха,
Кожны рад:
Ёсць і Ціхан,
І Ігнат.



Л. Н. ТАЛСТОЙ



# ВЕРАБЕЙ І ЛАСТАЎКА

Раз я стаяў на дварэ і глядзеў на гняздо ластавак пад страхою. Абедзве ластаўкі пры мне паляцелі, і гняздо асталося пустым. У той час, як іх не было ў гняздзе, са страхі зляцеў верабей, скокнуў на гняздо, аглянуўся, узмахнуў крылцамі і шусь у гняздо; потым высунуў адтуль сваю галоўку і зачырыкаў.

Скора пасля таго прыляцела да гнязда ластаўка. Яна падалася ў гняздо, але, як толькі ўбачыла гасця, запішчала, памахала крылцамі на месцы і паляцела.

Верабей сядзеў і чырыкаў.

Раптам прыляцела некалькі ластавак: усе ластаўкі падляцелі да гнязда, як-бы для таго, каб паглядзець на вераб'я, і зноў паляцелі.

Верабей не трусіў, паварачваў галаву і чырыкаў.

Ластаўкі зноў падляталі да гнязда, нешта рабілі і зноў адляталі.

Ластаўкі не дарэмна падляталі: яны прыносілі кожная ў дзюбцы гразь і патроху замазвалі ўваход у гняздо.

Зноў адляталі і зноў прылjaталі ластаўкі і ўсё болей і болей замазвалі гняздо, і ўваход рабіўся ўсё цясней-шым і цяснейшым.

Спачатку відаць была шыя вераб'я, потым ужо адна галоўка, потым носік, а потым і нічога не відаць было: ластаўкі зусім замазалі яго ў гняздзе, паляцелі і са свістам сталі кружыцца навокал хаты.

# АКУЛА

Наш карабель стаяў на якары, каля берага Афрыкі. Дзень быў пагодлівы; з мора дзьмуў свежы вецер, але пад вечар пагода змянілася: стала прыпарваць і нібы з нагрэтай печы павеяла на нас гарачым паветрам з пустыні Сахары.

Перад захадам сонца капітан вышаў на палубу, крыкнуў: „Купацца“, і за хвіліну матросы былі ўжо ў вадзе, спусцілі ў ваду парус, прывязалі яго і ў парусе наладзілі купальню.



На караблі з намі былі два хлопчыкі. Яны першымі скокнулі ў ваду, але ім цесна было ў парусе, і яны захацелі плаваць навыперадкі ў адкрытым моры.

Абодва, нібы яшчаркі, выцягваліся ў вадзе і што было сілы паплылі да таго месца, дзе была бочка над якарам.

Адзін хлопчык спачатку выперадзіў таварыша, але потым пачаў адставаць. Бацька хлопчыка, стары артылерыст, стаяў на палубе, любаваўся сынам. Калі сын пачаў адставаць, бацька крыкнуў яму: „Не падкачай!“

Раптам з палубы нехта крыкнуў: „Акула!“—і ўсе мы ўбачылі ў вадзе спіну морскага дзіва.

Акула плыла проста на хлопчыкаў.

— Назад! Назад! Вярніцеся! Акула!—закрычаў артылерыст.

Але хлопцы не чулі яго, плылі далей, смяяліся і крычалі яшчэ весялей і мацней.

Артылерыст, белы як палатно, не шавелячыся, глядзеў на дзяцей.

Матросы спусцілі лодку, кінуліся ў яе і, налягаючы на вёслы, паімчаліся што было сілы да хлопчыкаў. Але матросы былі яшчэ далёка ад іх, калі акула ўжо была не далей дваццаці шагоў.

Хлопчыкі спачатку не чулі таго, што ім крычалі, і не бачылі акулы. Але скора адзін з іх азірнуўся, і мы ўсе пачулі страшны крык. Хлопчыкі кінуліся плысці ў розныя бакі.

Крык гэты нібы разбудзіў артылерыста. Ён сарваўся з месца і пабег да гарматы. Ён павярнуў хобат, прылёг да гарматы, прыцэліўся і ўзяў фіціль.

Мы ўсе, колькі нас было на караблі, замерлі ад страху і чакалі, што будзе.

Пачуўся стрэл, мы ўбачылі, што артылерыст упаў каля гарматы і закрыў твар рукамі.

Што сталася з акулай і хлопчыкамі, мы не бачылі, бо на хвіліну дым засланіў нам вочы.

Але калі дым разышоўся над вадою, з усіх бакоў пачуўся спачатку ціхі гоман, потым гоман стаў мацнейшым і, нарэшце, з усіх бакоў раздаўся вясёлы радасны крык.

Стары артылерыст адкрыў твар, падняўся і глянуў на мора. На хвалях гайдаўся жоўты жывот мёртвай акулы. За некалькі хвілін лодка падплыла да хлопчыкаў і прывезла іх на карабель.




# Бірабіджан

Нарыс Ів. БАГМУТА
Малюнкі А. ВОЛКАВА

I

Маленькі Ізя Розенфельд жыў у невялічкім мястэчку. Ён быў худзенькі і кволы, бо мала гуляў на свежым паветры.

Ізя марыў пра лес, зялёныя лугі, быстрыя празрыстыя рэчкі. Пра іх ён чытаў у кніжках. А ў жыцці Ізя бачыў толькі душны пакой ды пыл мястэчковых вуліц.

Ізін бацька быў кравец. Ён заўсёды сядзеў каля акна, нізка схіліўшыся над шытвом. Калі Ізін бацька быў малы, ён таксама марыў пра зялёныя лугі і празрыстыя рэчкі. А як падрос, хацеў працаваць на сельскай гаспадарцы або на вялікім заводзе.

Але царскі ўрад забараняў яўрэйскай беднаце жыць у вялікіх гарадах, дзе ёсць заводы. А каб мець зямлю, трэба было яе купіць. Зямля належала памешчыкам і каштавала вельмі дорага. У Ізінага бацькі не было грошай, і ён стаў бедным краўцом, як і яго бацька, Ізін дзед.



Але прышла Кастрычніцкая рэвалюцыя, якая прыраўняла яўрэяў у правах да іншых нацыянальнасцей. Многа рамеснікаў з мястэчка пайшлі на заводы, у Чырвоную армію, а таксама на сельскую гаспадарку.

II

Аднойчы да Ізінага бацькі зайшоў Саламон Шойхет— шавец. Ён сказаў:

— Я надумаў ехаць у Бірабіджан.

— Што такое Бірабіджан?

Ізя ўпершыню чуў гэта слова.

— Бірабіджан—гэта зямля на Далёкім усходзе, каля самай Манчжурыі. Там совецкая ўлада арганізавала вобласць для працоўных яўрэяў.

— А хто там жыве цяпер?

— На велізарным прасторы Бірабіджана ёсць некалькі рускіх вёсак, ёсць карэйскія вёскі, ёсць стаянкі тунгусаў, удэгейцаў. А ў лясах жывуць дзікія звяры—тыгры, дзікія свінні, мядзведзі.

Доўга гаварылі кравец і шавец.

Ізя, слухаючы, задрамаў. Яму прысніўся вялікі лес і дзікія свінні, што прышлі на вадапой да празрыстай, у зялёных берагах, рэчкі.

Шавец Шойхет паехаў у Бірабіджан. А неўзабаве прышло ад яго пісьмо Ізінаму бацьку:

„Прыязджай у Бірабіджан,—пісаў Шойхет.—Якія тут лясы! У іх расце і кедр, і дуб, і ліпа, і нават коркавае дрэва, з кары якога робяць коркі для бутэлек. Скажы нашым цеслярам, сталярам і бондарам, што лес чакае на іх.

А вінаграду! Ідзі ў лес і рві, колькі табе трэба.

А якія лугі!

Мы аром гэтыя лугі і сеем пшаніцу. А на той год будзем сеяць жыта. Ты разумееш,—тут родзіць жыта! Тут родзіць усё! Такой ураджайнай зямлі я яшчэ не бачыў!

Кажы ўсім, няхай едуць у Бірабіджан“.

III

Ізін бацька разам з другім парашыў ехаць. Сталі збірацца да ад‘езду.

Нарэшце ўсё было гатова. Селі на цягнік. Цэлы месяц ехаў Ізя. Перад ім прамільгнулі бязмежныя стэпы і лясы Сібіры, шырокія рэчкі і высокія горы, сотні вёсак і гарадоў. Чым далей ішоў цягнік, тым менш траплялася паселішч. Як вокам акінуць, прасціралася сінеючая кучаравая тайга—густы, густы лес.

Нарэшце цягнік спыніўся. На будынку станцыі было напісана:

„ТИХОНЬКАЯ“.

— От мы і ў Бірабіджане!—сказаў Ізін бацька.

Перасяленцы выходзілі з цягніка.

Дарослыя пайшлі на перасяленчы пункт дагаварыцца, куды трэба ехаць далей.

Хутка бацька скончыў усе справы. Некалькі падвод, нагружаных хатнім скарбам, рушылі ў дарогу.

К вечару прыехалі на месца.

Гэта была невялікая палянка, з усіх бакоў акружаная гушчарняком. З-за лесу відаць былі горы. Некалькі драўляных будынкаў стаяла між кустоў і пнёў. Звонка цю-



калі сякеры каля двух няскончаных будынкаў. Гэта будавалі школу і клуб.

Перасяленцаў з радасцю сустрэлі:

— Просім у наш лясны прытулак!

Пасёлак гэты меў назву: „Вальдгейм“ або „Лясны прытулак“.

Сяк-так уладзіліся: хто ў хаце, хто ў шалашы.

Узяліся за работу. Трэба было падрыхтоўваць зямлю да веснавой сяўбы.

Усе дарослыя секлі сякерамі лес выкарчоўвалі пні.

Пакуль дарослыя карчавалі лес Ізя з іншымі дзецьмі таксама не сядзеў без работы: узяўшы кошыкі яны ішлі ў лес і збіралі там ягады.

Прайшлі дажджы і ў лесе нарасло шмат грыбоў. Ізя часта прыносіў дахаты поўныя кошыкі грыбоў.

Ад старых перасяленцаў Ізя даведаўся, што тут водзіцца шкоднік—



бурундук, смуглявы звярок. Зрабіўшы рагатку, Ізя адшукваў бурундукоў, і, як сапраўдны паляўнічы, страляў іх, вешаў сабе за пояс і так ішоў дахаты. Дома ён здымаў з іх шкуркі, рыхтуючы сабе на каўнер.

Аграном хваліў Ізю:

— Малайчына! Знішчай бурундукоў. Гэта шкоднікі, якія псуюць ураджай.

Тады Ізя арганізаваў брыгаду маладых паляўнічых. Дзеці, узброеныя рагаткамі, хадзілі ў лес і кожны раз прыносілі некалькі забітых звяркоў.

Аднаго разу брыгада загнала бурундукоў у норку. Сталі капаць. Нара была маленькая і вузкая. Доўга капалі, то губляючы норку, то зноў знаходзячы яе. Раптам нара стала шырэйшая і дзеці ўбачылі вялікае гняздо.

— Глядзі, арэхі!

У гняздзе было шмат арэхаў, акуратна складзеных адзін да аднаго. Гэта бурундук зрабіў запасы на зіму. Дзеці забралі іх і зважылі. Арэхаў было аж 5 кілограм.

IV

Буйнае збожжа расло на ўраджайнай зямлі. На гародах завязваліся цвёрдыя галоўкі капусты, сінелі вялікія памідоры, слаўся доўгі гурэчнік з агуркамі.

У лесе па густой сакавітай траве важна пахаджвалі гладкія каровы і цяляты. Калі прыцякала сонца і наляталі цэлыя раі аваднёў, тады жывёлу пераганялі ў паселішча пад вялікую паветку. Авадні не любяць ценю і пакідалі кароў.

Вальдгеймскі калгас купіў пасеку. Некалькі сот вулляў паставілі на ўскраі лесу.

У ліпені з лесу пацягнула густым мядовым пахам. Цвіла ліпа. Ізя ніколі не чуў такіх прыемных пахаў.

На пасецы ішла гарачая работа. Даставалі з вулляў рамы, устаўлялі іх у цэнтрабежныя машыны, выпампоўвалі мёд.

V

У Бірабіджане дажджы найбольш ідуць улетку. Ліпень і жнівень—наймакрэйшыя месяцы года. Насельніцтва Бірабіджана баіцца гэтых дажджоў, бо яны могуць затапіць і пасевы, і сенажаці, і паселішчы.

Аднойчы ўлетку падзьмулі вятры з усходу. Густыя хмары абложылі неба. Горы навакол стаялі ў белым тумане. Лінуў дождж. Ён ішоў тыдзень бесперапынна і заліў поле вадою. Пасля аднаго дня сонечнай пагоды зноў пачалася навальніца.

— Ураджай у небяспецы.

А вятры дзьмулі і дождж ішоў.

Усе дарослыя ўзяліся за рыдлёўкі. Яны абкопвалі палі, каб вада сцякала ў раўчукі. Але гэтага было мала. Тады вялікім плугам, прычэпленым да трактара, абаралі поле, градкі, пасекі. Вада сцякала з поля ў раўчукі, а адтуль—у нізіну. Затоплены пасеў і гародніна паказаліся з пад вады. Доўга лілі дажджы. Але не змаглі затапіць палёў і агародаў.

Калі скончыліся дажджы, Вальдгеймскі калгас сабраў вялікі ўраджай.

Ізя загарэў, падрос і паздаравеў. Гэта быў ужо зусім не той худзенькі і кволы Ізя, што жыў у мястэчку.

Увосень прыехаў у Вальдгейм настаўнік. Ізя пайшоў у школу. У класах пахла смалою і свежым дрэвам. У школе было так прыгожа і весела, як і ўсюды ў Вальдгейме. Вучыўся Ізя добра.

Слава пра Бірабіджан пайшла па ўсім свеце. Яўрэйская бедната з далёкай Аргентыны, з Германіі, з Палестыны, з Італіі і іншых капіталістычных краін пацягнулася ў Бірабіджан. Яны ўцякалі ад голаду, ад беспрацоўя, ад нацыянальнага гнёту ў капіталістычных краінах.

Бірабіджанцы з радасцю прымалі замежных гасцей.





# ЗАЙЦЫ-БАЯЗЛІЎЦЫ

Апавяданне І. КАГАНОЎСКАЙ
Малюнкі В. ТІХАНОВІЧА

Прайшлі чуткі па лясах, прайшлі чуткі па палях,—ад зайкі да зайкі, ад белачкі да белачкі, ад куста да елачкі: „Ці чулі вы, зверы?"—кажа заяц шэры.—„Нейкі дзядзька страшэнны ў гародзе стаіць і нельга туды па капусту хадзіць".

Сабраліся зайцы на сход, сабраліся зайцы ў паход. Сталі шукаць, пытацца: хто першы яго ўбачыў?

— Я,—кажа заяц шэры,—пачуў ад іх, вунь ад тых зайчых.

— Мы нічога не ведаем,—кажуць зайчыхі старыя,—не бачылі, нам зайчаняты казалі малыя.

А малыя ад спалоху заскакалі, вушкі задрыжалі. Кажа адно: „Рана-рана беглі мы паволі па капусным полі. Раптам я ўгору паглядзела і задрыжэла. Бачу—чалавек страшны стаіць, палкай хоча нас біць. Я кінулася наўцёк, за мной ледзьве паспяваў браток".

Кажа заяц важны, заяц адважны: „Эх вы, баязліўцы! Вось я дык нікога не баюся — пабягу пагляджу".

Праз купінкі, праз канаўкі, па зялёнай траўцы пабег заяц важны, самы адважны.

Зайцы чакалі-чакалі, галовамі ківалі: прапаў заяц важны, самы адважны.

Раптам бачаць: бяжыць нейкая звярына, бакі раздуваюцца, зямлі не дакранаецца.

— Ды гэта-ж наш заяц важны, найадважны!

Зайцы да яго:

— Ну, што?

А ён аддыхацца не можа. Пакаціўся, ляжыць і дрыжыць.

— Браткі,—кажа,—бяда: там такі страшны чалавек, што ніколі такога не бачыў я за свой век.

Стала на корч зайчыха, кажа:

— Ціха! Чаго спужаліся? Чаго раскрычаліся? Збярэм заечае стада, пойдзем усім заечым атрадам. Ён не ўстаіць перад намі, перад смелымі зайцамі.

Як парашылі, так і зрабілі.

Шуміць трава, шамацяць лісточкі, хутка мільгаюць заечыя ножкі. Перад зайцамі поле шырокае, пад нагамі капуста зялёная. Зайцы спыніліся, на ўсё забыліся. Раптам закрычала зайчыха: „Ой ліха! паглядзіце, хто на полі, страшнейшага не бачыла я ніколі! У руках дубіна, хавайце свае спіны!"

Першай пабегла зайчыха-трусіха, за ёю заяц важны, самы адважны. А малыя зайчаняткі з усіх ног пусціліся наўцёк. Трава шумела. Поле дрыжэла. Заслухаліся камары і мушкі, прыслухоўваліся птушкі. Зялёная жабка ад здзіўлення падняла лапку. Крычыць:

— Куды гэта, зайцы? Што такое? Лес гарыць?

— Горш!—адказалі зайцы.—Хавайся! За намі страшыдла гоніцца. Нажышчай тупае, дубінай стукае, галавой махае, нам пагражае.

А жабка надзьмулася ды охае:

— Ох-хо-хо! палахлівыя зайцы! Ох-хо хо, уцякайце, а я не баюся, я да страшыдла дабяруся.

Расставіўшы лапкі, паскакала жабка.

— Ай ды зайцы!—качаецца жабка ад смеху.—Ай ды страшыдла! Ай ды пацеха! Ды проста чучала гэта так разадзета!

Пачала смяяцца жабка. Дрыжаць у яе лапкі. Распух жывот ад смеху:—ух! ух!

Вось пацеха!



# Ромбы і Шпалы

Апавяданні ХВ. ШЫНКЛЕРА
Малюнкі А. ШАХРАЯ



Міколка вельмі падобны да свайго старэйшага брата Петрыка—такі-ж чарнявенькі, з такімі-ж карымі вочкамі. І носік у яго таксама трохі кірпаты, як і ў Петрыка.

Апрача таго, Міколка ва ўсім раўняецца па Петрыку: Петрык піонер, і Міколка хоча таксама быць піонерам.

Міколка прыглядаецца да ўсяго, што Петрык робіць і як ён гаворыць. А Петрык робіць усё ўпэўнена і гаворыць цвёрда. Ён ведае, што рабіць і гаварыць. Міколка не заўсёды ведае, што трэба рабіць і казаць. Але ён раўняецца па Петрыку, гаворыць пра ўсё цвёрда і ўпэўнена і не любіць прызнавацца ў памылках. Ён лічыць, што і ён, як Петрык, ніколі не памыляецца.

І таму Міколку часта даводзіцца спрачацца, заўзята бараніць свае думкі, даводзіць іх правільнасць. А Петрыку гэтага рабіць не даводзіцца. От тут Міколка вельмі злуе і робіцца яшчэ больш упартым.

Сёння такі ўжо дзень выдаўся, што Міколку проста грызціся выпадае з Петрыкам. І праз гэта ў абодвух у іх вельмі задзірысты настрой, і глядзяць яны адзін на другога недавольныя.

Міколка гуляў у чырвоных кавалерыстаў. Ездзіў конна на дубчыку памахваў выгінастай вострай-вострай, хоць і драўлянай, шабляй і спяваў

„Мы чырвоная кавалерыя...“

Ён вельмі спрытна перамагаў усіх ворагаў—белых генералаў і бандытаў, набраў многа палонных. Пасля парашыў апрануцца ў поўную вайсковую форму.

— Зрабі мне, Петрык, ромбікі і шпалы. Каб, як у Будзённага,—чатыры ромбы і чатыры шпалы.

— Дык нашто табе шпалы?—здзівіўся Петрык.—У Будзённага-ж чатыры ромбы, дык я табе і зраблю ромбы.

— Не! У яго чатыры ромбы і чатыры шпалы.. —даводзіў Міколка.

— Кінь ты! Зноў спрачацца? Дзе-ж у яго змесцяцца чатыры ромбы і чатыры шпалы? Глупства адно!

— А от змяшчаюцца!—стаяў на сваім Міколка.

— У Будзённага чатыры ромбы!—цвёрда і раздзельна сказаў Петрык.

— І чатыры шпалы!—гэтак-жа цвёрда і раздзельна дадаў Міколка.

— Ну, пачакай-жа!—схапіўся Петрык за кніжку.

Ён перагарнуў колькі старонак, знайшоў партрэт Будзённага.

— Ну, ромбы—от яны! А шпалы дзе?

— А от і шпалы!—пераможна паказаў Міколка на грудзі Будзённага.

— Ну і дурнота!—ад смеху не мог злаваць Петрык.—Гэта-ж чатыры ордэны ў яго, а не шпалы. Шпалы бываюць там, дзе ў яго акурат ромбы. І шпал тут няма...

Міколка памыліўся—ордэны назваў шпаламі... Памылка была выяўлена. І спрачацца больш не выпадала. Міколка надзьмуў свае пухлыя губы і пайшоў моўчкі ад Петрыка.

Стаяў самотна дубчык-конік, абапёршыся сумна на крэсла, валялася на падлозе шабля—нават у ножны не ўкладзеная.

Забыўся Міколка на ўсё гэта, адпала ахвота ваяваць. Сеў ціханька за кніжку і, насуплены, пачаў гартаць, шукаць малюнкаў.



# СІБІЛЬКІ



Як выпраўляўся Петрык на рэчку паглядзець сібількоў—унадзілася за ім цэлая хэўра—пайшоў Сымонка, Мішка—шмат хлапцоў. Ззаду, ледзь паспяваючы за большымі, пыхкаючы, як вялікі паравоз на пад'ём, шнураваў Міколка.

Адразу ўсе накіраваліся да пажарных бочак, што стаялі з вадой на драўляным мосце праз рэчку.

Даўно ўжо неяк паспрачаўся быў Петрык з Міколкам за сібількоў—так яны называлі верхаводак. Часта гэтыя сібількі браліся на вудачку, як лавілі хлопцы рыбу. Такія-ж надаедныя, круцяцца ля прынады, штурхаюць, вялікай рыбіне толькі замінаюць. Малы сібілёк—адна замінка, калі так хочацца злавіць вялікую плотку, або акуня ці ёршыка. На жыўца і то сібілёк не гадзіцца. На жыўца, вядома, куды зручнейшы бывае пяскарык. Дык от, Міколка казаў, што сібілёк не заўсёды малы. Можа ён падрасці і тады будзе як плотка. Петрык даводзіў, што сібільку ўсяго і росту, што на два вяршкі. Заўзята тады яны паспрачаліся. І парашылі канешне на вопыце ўпэўніцца: як злавілі колькі сібількоў—і малых, і большых, узялі ды пусцілі іх у пажарную бочку.

— Хай растуць, паглядзім!—з насмешкаю сказаў Петрык.

— Ну, і паглядзім!—не здаваўся Міколка.

Штодня насілі хлопцы сібількам есці—хлеба, варанага гароху. Мух лавілі. Малыя сібількі, праўда, падрасталі, дагналі большых, а от большыя зусім не раслі. Так і сталі ўсе сібількі роўныя.

— Ну, дык як, Міколка, вырастуць сібількі?

Дзе там спрачацца было цяпер Міколку! Сібількі канешне не раслі.

— Не растуць... Праўда твая, Петрык!—кажа лагодна Міколка. І дадае:—Давай хіба выпусцім, Петрык, сібількоў! Ім у рэчцы выгадней будзе, весялей.

— Давай. Гэта ты правільна кажаш!—згаджаецца Петрык.

З сёнешняй празмернай радасці яму проста і не хочацца падражніваць Міколку, што так выяўна памыліўся. А яшчэ гэтак заўзята тады спрачаўся!

Петрык з Міколкам вылаўліваюць усіх да аднаго сібількоў. І разам з усімі сябрамі бягуць з маста на бераг, да вады. Паварачваюць вядзерца. Сібількі плёхкаюць у ваду, трохі адплылі, а пасля некаторыя паклаліся на бок, бліскаючы на сонцы блакітна-срэбнай луской. Зусім як нежывыя.

— Ай, падохлі!—спужаўся Міколка.

Петрык смяецца. Ён пляскае далоняй па вадзе, сібількі выпроставаюцца—толькі спінкі шэрыя замільгацелі. Павольна разыходзіліся кругі па ціхай гладзі вады.

Згладзілася вада. І не відаць ужо сібількоў.

— Пайшлі на ўзлесак!—закамандаваў Петрык.

І хлопцы навыперадкі паімчаліся да лесу.



# Як пісалі раней

## Кніга на цаглінцы



Паглядзі, якія значкі намалёваны тут кліночкамі. Гэтыя значкі—старажытныя літары, а напісана на цаглінцы імя бога Ормузда.

Даўно-даўно, калі яшчэ і Масквы і другіх нашых гарадоў не было, на поўдні, далёка ад нас, жыў такі народ—сумары. Так пісалі яны. Возьмуць яны сырую мяккую цаглінку і на ёй з усіх бакоў лапатачкамі і вострым ножыкам выціскаюць свае літары. Потым гэтыя цаглінкі апальвалі ў печы яны станавіліся цвёрдымі і моцнымі. Так і выходзілі кнігі-цаглінкі.

Сумары даўно вымерлі. Ад гарадоў іх не асталося і следу, усё пяском і зямлёю занесена. А цагляныя кнігі пад пяском асталіся. Вучоныя іх выкапалі і разгадалі, што ў іх напісана.

## Пісьмы на гаршках

А гэта—пісьмы, напісаныя на гаршках.

З сырой гліны ляпілі гаршкі, а потым востраю лапатачкай выводзілі на іх значкі. І такімі значкамі запісвалі колькі сабрана пшаніцы, як урадзіў вінаград, ці здаровыя дзеці.



Апаляць такі гаршок са значкамі—вось і пісьмо гатова. У такое пісьмо-гаршок накладвалі садавіны і нявольнікі неслі яго на насілках пану.

Так пісалі раней у старажытным горадзе Вавілоне. І вавілоняне, як сумары, даўно вымерлі, а ў зямлі захаваліся да гэтага часу гаршкі-пісьмы.

На малюнку паказана, як нявольнікі нясуць пану пісьмо.



## Папера з балота



У старажытнай краіне—Егіпце—пісалі на паперы, якая расла на балоце ў выглядзе чароту. Зрэзвалі такую чароціну і, асцярожна ачысціўшы яе, надрэзвалі мяккі асяродак. Потым акуратна раскручвалі; выходзілі шырокія і доўгія белыя аркушы. Затым аркушы разгладжвалі; сушылі і пісалі на іх, як мы цяпер на паперы. Такая папера называлася п а п і р у с.

Пры раскопках вучоныя знаходзяць папірусы і ў наш час. А на іх—розныя звяры, птушкі,—гэта замест літар і складоў.

## П р ы к а з н ы

Гэта—рускі баярын дыктуе пісару ўказ або загад.

Так даўней у Расіі пісалі спецыяльныя пісары. Яны называліся прыказнымі, бо пад дыктоўку цара ці баяраў, якія кіравалі тады Расіяй, часта пісалі прыказы (загады).



На шыі ў пісара вісела чарнільніца, а за вухам—гусінае пяро. Пясочніца з пяском таксама была напагатове. Напіша гусіным пяром і прысыпле пяском замест прамакаткі.

Пісары гэтыя часта сядзелі на вуліцы і чакалі заказаў. Заплацяць яму 5 капеек, або дадуць булку, ён і напіша скаргу ў суд ці пісьмо камунебудзь, бо граматных людзей тады было вельмі мала.



## Кніжкі-скруткі

Перад вамі малюнак, а на ім—даўнейшыя кніжкі-скруткі. Пісалі тады на доўгім-доўгім аркушы. Напішуць і скруцяць у трубачку, а калі трэба прачытаць,—раскручвалі. Разгорнуць аркуш, прачытаюць ды зноў скруцяць у трубачку.

Гэта было нязручна, але да цяперашняй кніжкі з старонкамі людзі не так скора дадумаліся. Першым дадумаўся друкаваць—кнігі немец Іоган Гутэнберг. Гэта было больш за 400 год таму назад.



## НАВОШТА КУРЫЦА ГЛЫТАЕ КАМЕНЬЧЫКІ

Зубоў у курыцы, як і ва ўсіх птушак, няма. А зярняты цвёрдыя. Праглыне курыца зерне, трапіць яно ў яе валяк, паляжыць там, размякне трохі. Потым з валяка зерне пяройдзе ў страўнік. Страўнікаў у курыцы два. Першы з тонкімі сценкамі. У ім зерне яшчэ больш размякне, а тады ўжо трапляе ў другі страўнік. Гэты страўнік ты ведаеш. Сценкі ў ім тоўстыя. І заўсёды ў ім каменьчыкі знаходзяцца. Трапіць зерне ў гэты страўнік, сценкі яго збяруцца і пачне зерне пераціраццa. Трэцца зерне аб сценкі, аб каменьчыкі, перамолваецца як у жорнах. Выходзіць, што курыца як-бы жуе страўнікам.

## У КАГО ВУХА НА НАЗЕ?



Ды ў таго коніка, што ў траве стрыкоча. На пярэдняй ножцы, ніжэй калена, відаць дзірачка. Гэта і ёсць конікава „вуха“. Яно вельмі простае, не такое, як у чалавека. Чуе ім конік вельмі дрэнна.

## У КАГО НОС ЗАМЕНЬВАЕ РУКІ?



Звычайна ў слана. Слановы хобат—гэта нос такі, доўгі, выцягнуты. А хобатам слон розную яду ў рот цягне і мух ганяе. Добрая „рука“ ў слана. Ён сваім хобатам і палена падыме, і саломінку возьме. Ім ён і ваду набірае. Толькі не ў прыгаршчы, як ты набіраеш. Ён ваду проста ў хобат уцягвае—у ноздры. А адтуль у рот—загне хобат, засуне канец яго ў рот і выльe туды ваду.

Байка К. Крапівы

# Сава, Асёл ды Сонца



Сава лятала па начы,
З сабою птушкам смерць насіла,
Хаўтурны спеў ім пяючы,—
Сама там драла іх, сама-ж і галасіла,
Ды так не ўбачыла, як нахапіўся
дзень,
І сонца яркага прамень
Дарэшты асляпіў ёй вочы.

Сава ўцячы тут хоча,
Ды толькі вось ляцець не можа,
А блізка тут няма дупла нідзе.
Заплакала сава ў бядзе—
Ну хто-ж саве паможа?
На шчасце, ёй тут лёс паслаў
Знаёмага асла.
І кажа ён: „Не плач, сястрыца,
Ды надта не бядуй,—
З бяды мы вырабімся самі,
І сонцу нам не прыдзецца
скарыцца:
Я вушы доўгія на сонца навяду,
І засланю яго вушамі.
Як цемра ўсю пакрые галу,
Як згіне прыкрае святло,
Дык ты й ляці сабе ў дупло
Тады памалу“.
І наш асёл за працу ўзяўся шчыра:
Як можна вушы свае шырай
Ён растапырыў, распрастаў
І проці сонца стаў.
Калі-ж налева глянуў коса,—
Святла там яркага палоса.
Ён—гоп! у левы бок.
Пасля глядзіць—святло і справа,—
Тады назад ён—скок!
Нарэшце, бачыць—дрэнна справа:
Скакаў, скакаў і ўжо насілу
ходзіць,
А сонцу ўсё ніяк не шкодзіць,—
Ні каплі не памог саве,
А вочы пасляпіў сабе.
І вось аслу тады тут ясна стала:
Каб сонца засланіць—вушэй
аслiных мала.

459

ЦАНА 30 КАП.

## ГАЛАВАЛОМКА

Размясціце ў 16 клетачках кропкі, зоркі, квадрацікі і трыкутнікі такім спосабам, каб у кожным— і ляжачым і стаячым радку было па адной кропцы, квадраціку і трыкутніку.








## ЛАБІРЫНТ

Перад табою лабірынт з двума ходамі. Пашукай якім ходам хутчэй можна дайсці да цэнтра.





## ЦІКАВЫЯ МАЛЮНКІ

Злажы з запалак матылька і птушку, як паказана на гэтым малюнку.

Прыдумай сам другія малюнкі, якія можна злажыць з запалак.

## ЗДАГАДЛІВЫ КАВАЛЬ



Да каваля прынеслі ланцуг, разарваны на пяць частак. Яму загадалі ўзяць з гэтага ланцуга тры колцы і імі злучыць між сабой разарваныя кавалкі. Каваль згадзіўся. Як ён гэта зрабіў?

Адказы знойдзеце ў наступным нумары.


Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ. Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА

Друкарня ім. Сталіна 17.405 экз. Заказ № 455. Уп. Галоўлітбела № Б—1893.